Гродна
№1 (507),
13 студзеня 2019
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# На шляху да еднасці




Хутка ў свеце распачнецца Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян. Яго дэвізам стануць словы: “Імкніся да справядлівасці” (Дрг 16, 20).

● працяг на с. 4





# Візіт, які нясе блаславенне

**Пасля Божага Нараджэння і Новага года распачынаецца час душпастырскіх візітаў – т. зв. каляды. Святар прыходзіць з блаславеннем, просячы ў малітве аб здароўі і чысціні, дабрыні і лагоднасці, а таксама аб вернасці ў выкананні запаведзей. Адчыненыя дзверы нашых дамоў – гэта таксама сімвал адкрытых на Бога сэрцаў.**

● працяг на с. 5

“Тыя, хто забівае хрысціян, не пытаюцца аб канфесіі”. Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**СВЯТА ХРОСТУ ПАНА**
**Лк 3, 15–16. 21–22**

Калі народ чакаў і калі ўсе разважалі ў сэрцах сваіх пра Яна, ці не Хрыстос ён, Ян адказаў усім: "Я хрышчу вас вадою, але ідзе мацнейшы за мяне, якому я не варты развязаць раменьчык на сандалях Яго. Ён будзе хрысціць вас Святым Духам і агнём". І сталася, калі хрысціўся ўвесь народ, і калі Езус, атрымаўшы хрост, маліўся, раскрылася неба, і Святы Дух у цялесным выглядзе, як голуб, сышоў на Яго, і быў голас з неба, які прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".

## ДУХОЎНАЕ НАРАДЖЭННЕ

Бацькі далі нам жыццё натуральнае, фізічнае, а Пан падчас хросту адарыў сваім уласным Божым жыццём – асвячальнай ласкай, якая дае правa на Неба. Ён удзяліў нам таксама дары, неабходныя для духоўнага развіцця: стойкасць у веры, паглыбленне надзеі, узрастанне ў любові. Больш не патрэбна доказаў таго, што Стварыцель бязмежна любіць кожнага чалавека, паколькі адзін з найважнейшых знакаў любові – атрыманая намі падчас сакраманту ласка.

Аднак хрост з'яўляецца толькі пачаткам – духоўным нараджэннем, калі мы становімся Божымі дзецьмі, братамі і сёстрамі Хрыста, святынямі Святога Духа. Прыняцце сакраманту ачышчае ад першароднага граху, пакідаючы на душы незмываемы знак прыналежнасці Усемагутнаму. І гэтая пячатка хросту павінна адлюстроўвацца ў жыцці чалавека да самага канца яго зямной вандроўкі. Кожны хрысціянін павінен жыць згодна з Евангеллем, нястомна паглыбляючы адносіны з Панам праз малітву, узрастанне ў веры, надзеі і любові.

**Ці лічу сябе ўпадабаным Богу?**

**Як я адказваю на любоў Усемагутнага?**

**II ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 2, 1–11**

У Кане Галілейскай было вяселле, і Маці Езуса была там. Быў запрошаны на вяселле таксама і Езус, і вучні Ягоныя. І, калі не хапіла віна, Маці Езуса сказала Яму: "Не маюць віна". Адказаў Ёй Езус: "Жанчына, ці гэта Мая або Твая справа? Яшчэ не прыйшоў час Мой". Маці Яго сказала слугам: "Тое, што Ён скажа вам, зрабіце". Было ж там шэсць каменных збаноў, пастаўленых для юдэйскага ачышчэння, якія змяшчалі дзве або тры меры. Езус сказаў: "Напоўніце збаны вадою". І напоўнілі іх даверху. І кажа ім: "Цяпер зачэрпніце і занясіце кіраўніку вяселля". І панеслі. Калі ж кіраўнік вяселля пакаштаваў ваду, што стала віном, – і не ведаў, адкуль яно ўзялося, ведалі толькі слугі, якія чэрпалі ваду, – то паклікаў жаніха і кажа яму: "Кожны чалавек падае спачатку добрае віно, а калі нап'юцца, тады горшае. Ты ж зберог добрае віно аж дагэтуль". Такі пачатак цудаў учыніў Езус у Кане Галілейскай і аб'явіў славу сваю, і паверылі ў Яго вучні Ягоныя.

## НАЙВЯЛІКШАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Першы цуд Езуса заключаўся не ў аздараўленні ці ўваскрашэнні, размнажэнні хлеба ці суцішэнні буры – гэта было перамяненне. Прычым не толькі бачнае – вады ў віно, але і ўтоенае ад чалавечага зроку – перамяненне людской душы.

На вяселлі ў Кане Хрыстос ператварыў ваду ў віно, каб пазней віно стала Кроўю. Менавіта гэта з'яўляецца найбольшым цудам для ўсяго чалавецтва і найвялікшым вяселлем – Эўхарыстыя. Прымаючы св. Камунію, мы запрашаем у сэца Езуса і дазваляем Яму дзейнічаць у жыцці. Падобным чынам, як Хрыстос уратаваў ад ганьбы жаніха з нявестай, Ён будзе ратаваць таксама і наша жыццё, напаўняючы яго якасць і напаўняць сапраўдным сэнсам.

**Ці запрашаю я Езуса ў сваё жыццё?**

**З-за чаго я не магу змяніць у лепшы бок сваю штодзённасць?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Госць у дом – Бог у дом

*У першыя дні новага года ў нашыя дамы з душпастырскім візітам прыбывае святар. Да гэтай падзеі вернікі, як правіла, рыхтуюцца з нецярплівасцю. Накрываюць белым абрусам стол, ставяць на яго крыж, асвечаную ваду і свечкі.*

Святара, так павялося, чакае цэлы дом ці вуліца. Лесвічныя пралёты запаўняюцца звонкім гоманам: дзеці прагнуць як найхутчэй данесці старэйшым, дзе зараз знаходзіцца ксёндз.

Правіла гасціннасці глыбока ўпісана ў нашу традыцыю. Несумненную заслугу ў гэтым мае хрысціянская спадчына, якая сцісла спалучае адносіны да бліжняга з ушанаваннем самога Бога. Неадноечы госць, на якім засяроджваецца ўвага гаспадароў дома, можа ўнесці ў жыццё сям'і штосьці важнае: радасць, добрую параду, перасцярогу.

Хто запрашае ў свой дом святара, атрымлівае, у першую чаргу, выдатную падставу, каб разам памаліцца, наладзіць бліжэйшыя адносіны з душпастырам і добрым словам умацаваць хатні Касцёл. Сустрэча з ксяндзом, які "прыносіць у дом благаслаўленне ад Пана", з'яўляецца нагодай, каб агаварыць з ім узніклыя праблемы, а таксама актам публічнага вызнання веры. Такі візіт – асаблівая форма новай евангелізацыі, вельмі асабістая і ўцягваючая. Дастаткова толькі мець адвагу, каб закрануць непакоячыя пытанні.

Для душпастыра ж гэта цудоўная магчымасць, каб лепш пазнаць сваю паству, каб пазней у згодзе з уласным сумленнем даваць вернікам неабходныя сведчанні, дапускаць іх і рыхтаваць да сакрамантаў. Кодэкс кананічнага права выразна сцвярджае, што пробашч, "жадаючы добра выконваць функцыю пастыра, павінен старацца пазнаць вернікаў, даручаных яго апецы. Таму яму належыць наведваць сем'і, удзельнічаючы ў клопатах вернікаў, асабліва ў неспакоі і смутку, узмацняючы іх у Пану, а таксама, калі з нечым не спраўляюцца, прадбачліва іх выпраўляючы" (кан. 529 §1).

Не сакрэт, што ў многіх сучасных людзей запрашэнне ў дом душпастыра абуджае страх і боязь. Некаторыя намерана не застаюцца дома ці проста не адчыняюць святару дзверы. На жаль, яны не ўсведамляюць, што такім чынам закрываюцца не толькі на іншага чалавека, але таксама на ласку, якая выплывае з гэтай сустрэчы. А яна можа ажывіць нашы парафіяльныя супольнасці, дапамагчы вырашыць некаторыя пытанні, садзейнічаць бліжэйшаму знаёмству з жыццём Касцёла...

**Дарагія Чытачы!**

Памятайма, што Бог прыходзіць да нас мноствам спосабаў: у святых сакрамантах, Бібліі, кантактах з бліжнімі, цярпеннях, радасцях, прыгажосці свету, досведзе духоўнай ці фізічнай беднасці... Прыходзіць да нас таксама і ў асобе святара, які прагне наведаць наш дом і разам маліцца. Прымем жа з верай блаславленне ад Пана!

# ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



Ужо больш за год Касцёл на Гродзеншчыне перажывае свой І Дыяцэзіяльны сінод. У адпаведнасці з патрабаваннямі Сабору, ён павінен прывесці да аднаўлення рэлігійнага жыцця, душпастырства і прававога становішча ў дыяцэзіі. Прапануем чытачам "Слова Жыцця" новую рубрыку, якая мае на мэце перыядычна паведамляць пра значэнне дадзенай падзеі для мясцовага Касцёла, а таксама пра ход работы ў сінадальных камісіях.

## МЭТА СІНОДА

Мэтай Сінода з'яўляецца дапамога ардынарыю ў рэалізацыі задання кіравання дыяцэзіяй, а найперш у ажыццяўленні заканадаўчай улады. Біскуп Аляксандр Кашкевіч з'яўляецца адзіным сінадальным заканадаўцам: толькі ён падпісвае сінадальныя дэкларацыі і дэкрэты, толькі яго аўтарытэтам могуць быць абнародаваны пералічаныя дакументы.

Святарам і вернікам падчас Сінода належыць важны дарадчы голас, які, згодна з навучаннем аб сінодах, з'яўляецца зычлівай і кампетэнтнай радай. Непасрэдныя ўдзельнікі Сінода пакліканы падчас працы клапаціцца аб плёне для дыяцэзіі, аб развіцці веры Божага люду.

## ЗАДАЧЫ СІНОДА

Задача І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі – прыцягнуць увагу членаў Гродзенскага Касцёла да супольнай карысці. Ёй з'яўляецца, як пісаў у сваім пастырскім лісце на распачацце Сінода біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, "вернасць традыцыі мясцовага Касцёла і адкрыццё сябе на знакі часу і новыя выклікі".

Кірунак прац Сінода добра адлюстроўвае абраны дэвіз "Жыць Евангеллем". Ён заклікае да прыняцця спадчыны даўніх пакаленняў, заахвочвае задумацца пра сённяшні і заўтрашні дзень, а таксама паглыбіць у дыяцэзіі хрысціянскае жыццё, згоднае з Евангеллем.

## СІНАДАЛЬНЫЯ КАМІСІІ

**Дэкрэтам ардынарыя прызначана 16 сінадальных камісій з 2-ма падкамісіямі:**
- Камісія па справах спадчыны Гродзенскага Касцёла і сакральнага будаўніцтва
- Камісія па справах эканомікі і дыяцэзіяльных структур
- Камісія па справах сацыяльных і прававых адносін з грамадзянскімі ўладамі
- Камісія па справах місій
- Камісія па справах дабрачыннай паслугі
- Камісія па справах новай евангелізацыі *(рухаў і таварыстваў)*
- Камісія па справах кансэкраванага жыцця
- Камісія па справах літургічнага душпастырства і сакраментальнага жыцця
  - падкамісія па справах абвяшчэння Божага слова
  - падкамісія па справах касцёльнага спеву і музыкі
- Камісія па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу
- Камісія па справах душпастырства сем'яў і сужэнстваў
- Камісія па справах духавенства
- Камісія па справах пакліканняў і фармацыі да прэзбітэрату
- Камісія па справах катэхезы і каталіцкага выхавання
- Камісія па справах душпастырства моладзі
- Камісія па справах сродкаў масавай інфармацыі
- Камісія па справах агульнага і спецыялізаванага душпастырства

Таксама прызначана 16 дэканальных камісій *(у кожным дэканаце)*. У іх склад уваходзяць духоўныя і свецкія асобы.

Кожная з камісій сустракаецца праз пэўны тэрмін і агаворвае канкрэтныя пытанні. Праца сінадальных камісій праходзіць пад кіраўніцтвам і пры каардынацыі генеральнага сакратарыяту і галоўнай камісіі Сінода.

*У наступных артыкулах рэдакцыя "Слова Жыцця" будзе цыклічна інфармаваць чытачоў аб ходзе прац у кожнай сінадальнай камісіі, а таксама аб тэмах, якія ў дадзены час абмяркоўваюцца.*

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Слуга Божы Мельхіёр Фардон. Святы пры жыцці

***Знакаміты айцец францысканец з Гродна нікому не адмаўляў у просьбах. Пасля яго смерці паток прасіцеляў не спыніўся: людзі прыходзяць ужо да магілы спачылага, спадзеючыся на падтрымку з Неба. Сёння ад вернікаў з гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай, дзе знаходзяцца астанкі святара, можна пачуць, што маленні да Слугі Божага а. Мельхіёра Фардона палягчаюць ім жыццё.***



### НАРАДЖЭННЕ СВЯТАРА

Улетку далёкага 1846 года ў Гродне ў збяднелай шляхецкай каталіцкай сям'і Фардонаў прыйшоў на свет Юзаф Якуб. Праз некаторы час ён залатымі літарамі ўпісаўся ў гісторыю горада…

Можна лёгка ўявіць, як немаўля хрысцілі ў катэдры, як падлетак наведваў св. Імшу ў пабернардынскім касцёле, як юнак здаў аптэкарскі экзамен, але агучыў бацькам рашэнне паступіць у духоўную семінарыю. Складаней намаляваць вобраз ксяндза, які падчас пілігрымкі перавязвае сцёртыя ногі паломнікаў, які цалуе рукі клерыкам у знак пашаны да духоўнага стану, які адмаўляецца



ад транспарту і ўсюды ходзіць пешшу, які аддае свой абутак сустрэтаму валацузе.

Уражвае і той факт з жыцця ксяндза, што ён, маючы за плячыма 20 гадоў служэння дыяцэзіяльным святаром, вырашыў пайсці па слядах святога бедачыны з Асізі і ўступіў у кляштар айцоў францысканцаў. Так кс. Юзаф склаў вечныя манаскія абяцанні, атрымаў новае імя і стаў а. Мельхіёрам.

У Гродне ён выконваў сваю паслугу і ў якасці дыяцэзіяльнага святара, і ў якасці манаха з францысканскага ордэна. Увесь гэты час служыў у парафіі Маці Божай Анёльскай.

### НЯСТОМНЫ СПАВЕДНІК

Вялікае значэнне ў сваёй душпастырскай дзейнасці а. Фардон надаваў сакраманту споведзі. Часта ён прыходзіў у канфесіянал а 5-ай гадзіне раніцы і выходзіў толькі пасля 8-ай вечара. У вольныя хвіліны, пакуль чакаў людзей, чытаў набожныя кнігі, адгаворваў францысканскі Вяночак, маліўся на ружанцы, разважаў.

Быў моцна патрабавальным да тых, у кім бачыў жаданне далейшага духоўнага развіцця. І адначасова выказваў вялікую цярплівасць і міласэрнасць да людзей, якім было цяжка падняцца з граху. Вернікі бачылі ў асобе святара настолькі добрага духоўнага настаўніка, што прыязджалі да яго на споведзь у Гродна нават з аддаленых парафій.

Аднойчы а. Мельхіёр наведваў цяжка хворага парафіяніна і прапанаваў яму скарыстацца з сакраманту споведзі. Пачуўшы ў адказ адмову, манах пакінуў церпячага і ўвесь зваротны шлях прайшоў на каленях. Гэты жэст а. Фардон учыніў дзеля ўзнагароджання перад




Господам і выратавання чалавека, які мог ужо не мець шансу аблегчыць сваё сэрца. Падобныя гісторыі, якія перадавалі з вуснаў у вусны гараджане, сведчаць аб тым, што айцу францысканцу ўдалося спасцігнуць тую Любоў, да якой у многіх не атрымалася нават дакрануцца.

### “ДЗІВАК” ФАРДОН, АБО НЕЗРАЗУМЕЛЫЯ ЎЧЫНКІ МІЛАСЭРНАСЦІ

А. Мельхіёр быў чалавекам вялікай пакоры і эмпатыі. Пра яго адданасць Богу і клопат пра кожную чалавечую душу гаворыць тое, што святар не пакідаў людзей у бядзе. Даведаўшыся, што адна жанчына, якая займалася прастытуцыяй, зараз пакутуе ад тыфу, а побач няма ніводнай асобы, якая захацела б ёй дапамагчы, айцец францысканец узяў хворую пад сваю асабістую апеку. Прыбіраўся ў яе пакоі, карміў, забяспечваў неабходнымі лекамі. Дзякуючы намаганням святара хвароба жанчыны адступіла. Гэта дало ёй шанс на лепшае жыццё.

У выніку вялікадушнай дзейнасці а. Мельхіёра дарога да больш годнага існаваня была адкрыта далёка не аднаму чалавеку. У памяці людзей жыве гісторыя пра небараку, які не мог супрацьстаяць спакусе красці. Калі стала вядома пра прыграшэнні мужчыны, ніхто не хацеў браць яго на працу: баяліся панесці страты. А. Фардон стаў адзіным, хто даверыўся гора-чалавеку і запрасіў яго служыць у святыні закрыстыянінам. Ніводнага выпадку крадзяжу з таго часу не паўтарылася.

Тыя, хто меў магчымасць напрамую сутыкнуцца з айцом францысканцам, ужо пры жыцці ўсведамлялі багацце і годнасць яго асобы. Пэўная сужэнская пара, выбіраючы імя для дзіцяці, нават вырашыла ахрысціць яго Фардонам, у гонар свайго пробашча. Даведаўшыся пра гэта, манах запярэчыў: “Гэта ж прозвішча! Няма такога імя! Няма такога святога!”. “Але ойча, – адказалі парафіяне, – Вы – святы!”.

### ГАТОВЫ НА СМЕРЦЬ ДЗЕЛЯ БЛІЖНЯГА

Адным з самых яскравых здарэнняў, дзякуючы якому а. Мельхіёр заслужыў асаблівую пашану, было выратаванне ад смерці гродзенскіх пажарнікаў. Эпізод меў месца ў 1915 годзе, падчас І Сусветнай вайны, калі мясцовыя землі трапілі пад фашысцкую акупацыю. Нямецкія салдаты западозрылі пажарных у шпіёнстве: нібыта тыя падавалі з вежы сігналы святлом адступаючай рускай арміі. Было абвінавачана 13 чалавек, якіх прыгаварылі да расстрэлу.

Вось як апісваюць далейшыя падзеі самі асуджаныя: “Нас правялі на могілкі каля кляштара і паставілі тварам да сцяны. Два нямецкія афіцэры зайшлі ў касцёл, дзе шмат людзей хавалася ад разрыву снарадаў. Сярод сабраных быў і а. Мельхіёр Фардон. Немцы звярнуліся да людзей, каб тыя пазналі сярод арыштаваных знаёмых. Ніхто з прысутных не асмеліўся вымавіць слова ў нашу абарону. Аднак а. Мельхіёр падышоў да афіцэраў, пацалаваў ім рукі і папрасіў, каб у замен за пажарнікаў расстралялі яго. Фанабэрыя акупантаў не мела межаў! Але пакорная просьба айца была напорыстай: нямецкім афіцэрам давялося сілай адпіхвалі святара. А. Мельхіёр вяртаўся, патрабавальна прасіў і цалаваў ім рукі” (вытрымка з “Паказання Гродзенскай дабравольнай пажарнай варты”).

Цуд адбыўся – немцы адмянілі загад. Пажарныя вярнуліся на працу ўпэўненыя, што вярнуліся з таго свету. За гэта ратавальнікі моцна дзякавалі а. Фардону, аб'явіўшы яго на агульным сходзе пажарнай варты сваім вечным ганаровым членам і капеланам. Дарэчы, у сценах гродзенскай пажарнай вежы дагэтуль захаваўся партрэт а. Мельхіёра, а ў экспазіцыі музея пажарнай аховы прадстаўлены яго асабістыя рэчы.

### ДАБРАДЗЕЙ ДЛЯ ГРОДЗЕНЦАЎ

За час свайго прабывання ў горадзе а. Фардон шмат зрабіў на карысць тутэйшых жыхароў. Ён заснаваў ІІІ Ордэн св. Францішка, праводзіў сустрэчы цвярозасці, на ўласныя сродкі пафарбаваў францысканскі касцёл і аднавіў кляштар, аддаўшы яго частку пад пачатковую школу.

Святар сябраваў з а. Максімільянам Кольбэ. Калі той прыбыў у парафію з ідэяй адкрыць выдавецтва, сутыкнуўся з моцнай крытыкай – рэалізацыя патрабавала шмат сродкаў, якіх не было. Ініцыятыву падтрымаў толькі а. Мельхіёр. У выніку свет убачыў часопіс “Рыцар Беззаганнай”, які паспрыяў зараджэнню і развіццю мясцовай каталіцкай прэсы.

Шмат увагі а. Фардон прысвячаў бедным: паставіў у святыні адмысловы кошык, куды парафіяне збіралі прадукты харчавання для патрабуючых, арганізаваў дармовую сталовую. Усю сваю маёмасць раздаваў абяздоленым, практыкаваў суровае жыццё. Шмат пасціўся: хлеб еў толькі сухі і амаль не спажываў мяса. Дзеля ўмярцвення плоці насіў жорсткую валасяніцу, спаў на голых дошках і ў пятніцы абвязваў сябе жалезным ланцугом. Рабіў гэта дзеля перапрашэння Госпада за чалавечыя грахі. “Маю шчаслівую ўцеху, што згубіў здароўе не на мізэрныя рэчы гэтага свету, а працуючы над збаўленнем несмяротных душ, стоячы заўсёды на варце, як салдат Хрыста”, – адзначыў а. Мельхіёр на схіле жыцця.

### НЯБЕСНЫ ЗАСТУПНІК

А. Фардон адышоў у вечнае жыццё ва ўзросце 65-ці гадоў – святар хварэў на туберкулёз лёгкіх. З ім развітваўся ўвесь горад: тысячы людзей на працягу некалькіх кіламетраў ішлі за труной, якую неслі на плячах пажарнікі.

Святар спачыў на гарадскіх пабернардынскіх могілках. У 2003 годзе яго астанкі былі ўрачыста перанесены ў касцёл Маці Божай Анёльскай, дзе служыў. З таго часу ў парафіі штодня пасля кожнай св. Імшы гучыць малітва з просьбай аб далучэнні а. Мельхіёра Фардона да супольнасці блаславёных.

Напрыканцы 2018 года папа Францішак выдаў дэкрэт аб распачацці беатыфікацыйнага працэсу айца францысканца з Гродна. У дакуменце Святы Айцец прызнаў гераічнасць цнот манаха: пацвердзіў яго заслугі перад Богам і людзьмі, нагадаў пра яго няпросты жыццёвы шлях і асаблівую місію ў Касцёле.

Завяршэннем працэсу беатыфікацыі з'яўляецца далучэнне Слугі Божага да ліку блаславёных. Але для гэтага небходна, каб праз яго заступніцтва быў здзейснены цуд: аздараўленне, навяртанне, выхад з залежнасці, вызваленне сям'і з крызісу… Такім чынам, ці атрымаем новага нябеснага заступніка, залежыць толькі ад гарачыні нашых малітваў.

*Ангеліна Марцішэўская*

**Усемагутны вечны Божа, Крыніца ўсялякай святасці і Айцец бясконцай дабрыні, выслухай нашу пакорную малітву і ўчыні, каб Твой Слуга а. Мельхіёр Фардон, прыклад Тваёй невымоўнай дабрыні і лагоднасці, верны вучань Твайго Сына Езуса Хрыста, паслядоўнік св. Францішка, бедачыны, з Асізі, дасягнуў хвалы Тваіх алтароў і стаў для нас пасрэднікам Тваёй вялікай міласэрнасці. Які жывеш і валадарыш праз усе вякі вечныя. Амэн.**

**Ойча наш… Вітай, Марыя… Хвала Айцу…**

## СЛОВА для жыцця

### Папа Францішак



*Хрысціянін – гэта не той, хто лічыць сябе лепшым за іншых: ён ведае, што з'яўляецца грэшнікам, як усе. Хрысціян – гэта проста чалавек, які спыняецца перад новым палаючым кустом, сузіраючы аб'яўленне Бога. Ён не мае таямнічага, невымоўнага імені, а прагне, каб Яго дзеці называлі Яго “Ойча”. Гэта дазваляе абнавіць сябе Яго моцай і адлюстроўвае прамень Яго дабрыні для гэтага свету, які так моцна прагне дабра, так моцна чакае добрых вестак.*

*Наш Бог не патрабуе ніякіх ахвяр. Ён не патрабуе нічога, прагне толькі, каб мы ў малітве паразмаўлялі з Ім і зразумелі, што з'яўляемся Яго дарагімі дзецьмі.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аудыенцыі ў Ватыкане, 02.01.2019*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Святая Сям'я з Назарэта знешне нічым не адрознівалася ад большасці іншых сучасных ёй сем'яў: жыла ў прастаце і ўбостве, цяжкай штодзённай працай здабывала сабе сродкі на ўтрыманне, не мела шмат багаццяў і не галадала, напэўна – як кожная іншая сям'я – перажывала радасці і смуткі, адчувала як дружалюбнасць, так і непрыязнасць наваколля, перажывала лепшыя і горшыя хвіліны.*

*Тым, што робіць Святую Сям'ю выключнай, з'яўляецца яе незвычайнае, годнае захаплення і пераймання духоўнае аблічча. З мізэрнай інфармацыі, якую аб жыцці Святой Сям'і нам дае Евангелле, можам зрабіць вывад, што для яе на першым месцы заўсёды быў Бог. На ўсе падзеі ў сваім жыцці, на ўсе выклікі і выпрабаванні Святая Сям'я глядзела па-божаму. Нават самыя цяжкія і балючыя выпрабаванні, самыя складаныя выклікі лёсу, найбольшыя цярпенні прымала з пакорай і верай, без наракання, без бунту і незадаволенасці, без узаемнага абвінавачвання і біцця ў грудзі, а ў перакананні, што кожная жыццёвая акалічнасць, кожная новая сітуацыя з'яўляецца выражэннем Божай волі, якую належыць выканаць, нават калі яе не разумееш.*

*Можна сказаць, што вернае, пакорнае выкананне Божай волі з'яўляецца мэтай і сэнсам жыцця Святой Сямі, задае напрамак усім яе намерам і дзеянням. У гэтым шуканні і выкананні Божай волі Святая Сям'я з Назарэта знайшла сваё шчасце.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай у свята Святой Сям'і ў касцёле ў Доцішках, 30.12.2018*



◆ *Апостальская Сталіца абвясціла планы Святога Айца Францішка на першую палову 2019 года. Сярод іх новая Апостальская канстытуцыя аб Рымскай курыі, персанальныя змены ў К-9 (Радзе кардыналаў), а таксама замежныя апостальскія паездкі Папы. Так стала вядома, што ў бліжэйшы час Пантыфік наведае Панаму з нагоды XXXIV Сусветных дзён моладзі, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Марока, Балгарыю і Македонію. Журналісты выказваюць спадзяванні аб прысутнасці Святога Айца ў другой палове года ў Японіі і іншых краінах Азіі, Афрыкі.*

◆ *Інтэр'ер базілікі св. Пятра ў Ватыкане мае новае асвятленне, для якога выкарыстаны энергазберагальныя лямпы. Па папярэдніх падліках, гэта дазволіць сэканоміць да 90% электраэнергіі ў параўнанні з тым, што спажывалася раней. Праект увасоблены ў супрацоўніцтве з нямецкай фірмай OSRAM. Для яго рэалізацыі, падрыхтоўка да якой трывала на працягу 2-ух гадоў, спатрэбілася больш за 1 млн LED-лямпаў. Яны змешчаны на 780-ці штучна створаных канструкцыях.*

◆ *Рэкордная колькасць пешых пілігрымаў наведала ў мінулым годзе Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія). Да магілы св. апостала Якуба ў мясцовай катэдры іх прыбыло амаль 328 тысяч. Гэта на 26 тысяч пілігрымаў больш, чым годам раней. Больш за ўсё, ажно 57% паломнікаў, прыйшло да месца захавання рэліквій святога т. зв. "Французскім шляхам", 21% – "Партугальскім шляхам". Астатнія выбралі іншыя маршруты вандроўкі. Яшчэ 40-50 гадоў таму ў Санцьяга-дэ-Кампастэла накіроўваліся нешматлікія пілігрымы. У 1972 годзе іх было толькі 67, у 1976 годзе – 243, а ў 1982 годзе – 1868. Значнае павелічэнне колькасці паломнікаў назіраецца з 1993 года. У 1999 годзе іх было ўжо 154 тысячы, у 2004 годзе – 179 тысяч, а ў 2010 годзе – 272 тысячы.*

◆ *З 1933 года ў французскіх Альпах у даліне Шамані ўзвышаецца статуя Хрыста Валадара. Яна мае 25-метровую вышыню і займае 2-ое месца сярод самых высокіх скульптур у краіне, саступаючы месца толькі статуі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Ма-Рылье. Да тэрасы, размешчанай перад каронай Хрыста, можна дабрацца, пераадолеўшы 84 прыступкі. Таксама там пабудавана невялікая капліца з 2-ма алтарамі і статуямі папы Пія XI і Марыі Каралевы Свету.*

◆ *Прафесар філасофіі ў Бостанскім каледжы і Кінгс каледжы д-р Пітэр Крайфт напісаў артыкул пад назвай "Езус: кароткая, простая і магутная малітва ў свеце". Аўтар падкрэслівае, што імя Збаўцы "ўтрымлівае ў сабе ўсё Евангелле... У гэтае Імя хрысціянін можа выліць усю сваю веру, без астатку, таму што быць хрысціянінам – гэта значыць ускладаць увесь давер на Хрыста". У артыкуле пералічаны 25 розных форм наймення Езуса, сярод якіх Альфа і Амега, Святло свету, Хлеб жыцця, Жывое Слова, Князь свету, Цар славы.*

*credo.pro; ekai.pl; aleteia.org*

# На шляху да еднасці

● *працяг са с. 1*

**Цыклічнае свята экуменізму з больш за стогадовай гісторыяй мае важнае значэнне таксама для вызнаўцаў Хрыста з Беларусі. Чаму мы павінны маліцца аб тым, каб стаць адной аўчарняй, над якой чувае адзін Пастыр? Якія экуменічныя мерапрыемствы Касцёла існуюць на Гродзеншчыне? На гэтыя і іншыя пытанні ў сённяшнім нумары "Слова Жыцця" адказвае кс. канонік Уладзімір Гуляй, старшыня сінадальнай камісіі па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу.**

***– Ксёндз Уладзімір, чаму Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян настолькі важны для Касцёла?***

– Спачатку трэба адзначыць, што Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян мае свае вытокі ў святарскай малітве Хрыста, які прасіў Айца, каб тыя, хто паверыць у Яго, "былі з'яднаныя ў адно" (параўн.: Ян 17, 20–23). Містычным целам Езуса з'яўляецца Касцёл. Таму і ідэя вяртання да адзінства надалей актуальная. Яна таксама служыць пацвярджэннем вернасці навучанню Збаўцы.

Малітва ў інтэнцыі адзінства з'яўляецца сяганнем да супольных каранёў, г. зн. да Хрыста – адзінага Адкупіцеля чалавека. Касцёл Пана – непадзельны з боскага боку – быў раздзелены чалавекам. Асноўная мэта Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян заключаецца ў імкненні да пераадолення бар'ераў. Але не для таго, каб іх сціраць, а каб знаходзіць штосьці супольнае і на гэтым будаваць адзінства праз малітву, сумесныя дзеянні, абарону хрысціянскіх і евангельскіх каштоўнасцей, а таксама арганізацыю культурных і навуковых падзей. Таму штогод з 18 да 25 студзеня, у перыяд ад колішняга свята катэдры св. Пятра да свята Навяртання ап. Паўла, хрысціяне розных канфесій з усяго свету сустракаюцца на экуменічных набажэнствах, малітвах, канферэнцыях, канцэртах...

***– Католікі жывуць не ў нейкім адасобленым, закрытым свеце, а сярод людзей, якія належаць да розных Цэркваў. Падзяліцеся, калі ласка, уласным экуменічным досведам. Як на справе выглядае экуменічны дыялог у Гродзенскай дыяцэзіі?***

– Беларусь – шматканфесійная краіна, таму істотным аспектам евангелізацыйнай місіі Каталіцкага Касцёла з'яўляецца дзейнасць на карысць еднасці хрысціян. Католікі прагнуць лепш пазнаць іншыя Цэрквы, таму ахвотна ўдзельнічаюць у экуменічных падзеях і сустрэчах, а асабліва ў супольных малітвах аб адзінстве.

Цяжка адназначна сказаць штосьці пра экуменічную дзейнасць на тэрыторыі нашай дыяцэзіі. У асобных рэгіёнах яна фарміруецца па-рознаму. Адно можна сцвердзіць з упэўненасцю: як хрысціяне мы ўсё лепш усведамляем аксіёму, што ўсіх нас яднае той самы хрост, які далучыў да Хрыста. Згодна апошнім афіцыйным звесткам, сёння на тэрыторыі Гродзенскай вобласці функцыянуе 440 зарэгістраваных хрысціянскіх супольнасцей.

Вельмі важным крокам наперад лічу тое, што людзі пачалі засяроджваць сваю ўвагу на момантах, якія яднаюць, а не раздзяляюць. Такі падыход спрыяе ўзрастанню сярод вернікаў пачуцця братэрства, таму што сапраўдны экуменізм нараджаецца ў сэрцы кожнай асобы, каб затым рэалізавацца ў яе ўласным жыцці, у сям'і, у супольнасці.

***– Аднак не ўсе маюць пашану да поглядаў іншых. Як схіліць да экуменізму моцна прывязаную да ўласнай рэлігійнай тоеснасці асобу, якая лічыць сваю канфесію найлепшай?***

– Хрысціянін павінен памятаць, што верыць у Хрыста – значыць прагнуць еднасці. Прагнуць еднасці – значыць прагнуць Касцёла, а прагнуць Касцёла – значыць прагнуць камуніі (супольнасці) ласкі, якая адпавядае задумцы Айца, запланаванай на пачатку вякоў. У гэтым заключаецца сэнс малітвы Хрыста, "каб былі адно", у гэтым заключаецца сэнс усякай экуменічнай дзейнасці.

Гледзячы на рэлігійнае, грамадскае жыццё, можам смела сцвердзіць: клопат аб еднасці з'яўляецца нашым пакліканнем. Чаму? Таму што "Бог у Хрысце паяднаў з сабою свет [...] і даў нам слова паяднання" (2 Кар 5, 19). І паколькі мы павінны пераймаць Езуса, станавіцца Ім у гэтым свеце, то наша місія ў Касцёле, у сям'і, у горадзе, у народзе – паяднанне!

***– Неаднойчы можа скласціся ўражанне, што экуменічны дыялог патрэбны толькі тэолагам. Ці можна ўбачыць яго рэзультаты ў жыцці звычайных людзей?***

– Заданне будавання еднасці хрысціян не толькі з'яўляецца адным з напрамкаў дзейнасці Касцёла, але і датычыць усіх вызнаўцаў Хрыста. Кожны з нас павінен клапаціцца аб устанаўленні поўнай камуніі паміж хрысціянамі, ніколі не забываючыся, што яна з'яўляецца ў першую чаргу дарам ад Бога, аб якім павінны нястомна прасіць.

Прагну ўзгадаць тут адну падзею. У маі 1999 года ў Румынію прыбыў з візітам папа Ян Павел ІІ. Нягледзячы на тое, што гэта краіна з глыбокай праваслаўнай традыцыяй, Святога Айца прынялі надзвычай сардэчна, у тым ліку і Праваслаўная Царква. На заканчэнне св. Імшы, цэлебраванай Пантыфікам у сталіцы, тлум католікаў і праваслаўных пачаў крычаць: "Unitate! Unitate!" – што значыць "Паяднанне! Паяднанне!". Святы Айцец быў вельмі ўзрушаны гэтай сцэнай і неаднаразова вяртаўся да яе ў сваіх навучаннях. Румынам сказаў тады, што ў іх сэрцах упісана асаблівае экуменічнае пакліканне – пакліканне да паяднання. Кожны хрысціянін павінен гэта ўсведамляць.

***– Хрысціянскія Цэрквы розных канфесій ва ўсім свеце ўжо даўно пачалі супольна браць голас не толькі ў рэлігійных пытаннях, але і ў важных сацыяльных справах, што закранаюць праблемы беднасці, эмігрантаў, абароны стварэння і інш. У Беларусі таксама ладзяцца якія-небудзь супольныя звароты і ініцыятывы?***

– Зададзенае пытанне датычыць т. зв. "практычнага экуменізму". Каталіцкі Касцёл у Беларусі бачыць магчымасці для рэальнага супрацоўніцтва паміж хрысціянскімі канфесіямі ў розных галінах жыцця, асабліва ў рамках супольных намаганняў на карысць справядлівасці, міру, прагрэсу, праў чалавека, сямейнага жыцця, абароны стварэння, дапамогі бедным, даючы такім чынам канкрэтнае сведчанне служэння і, у той жа час, адказваючы на ўсё новыя і новыя выклікі, якія паўстаюць перад чалавецтвам.

Прыкладам такіх практычных намаганняў з'яўляецца дзейнасць Каталіцкага дабрачыннага таварыства "Карытас". Арганізацыя заклікае да таго, каб духавенства і свецкія вернікі актыўна ўдзельнічалі ў разнастайных акцыях разам з прадстаўнікамі іншых хрысціянскіх канфесій.

Вялікая надзея ўскладзена на маладых людзей – валанцёраў. Яны паходзяць з розных асяроддзяў, рэгіёнаў і культур. Знаходзячыся побач, разам вучацца, працуюць, адпачываюць – жывуць. Усё гэта, а таксама дынамізм і адкрытасць, якой яны валодаюць, дазваляе ставіць больш высокія патрабаванні да іх ролі ў практычным экуменізме.

Важным абавязкам Каталіцкі Касцёл у Беларусі лічыць падтрымку ўсякай супольнай дзейнасці вызнаўцаў Хрыста ў галіне распаўсюджвання хрысціянскай культуры і супрацьстаяння патоку псеўда-культуры, парнаграфіі і іншых сацыяльна шкодных з'яў. Такім чынам, арганізуюцца міжканфесійныя канцэрты рэлігійнай песні, праводзіцца сумесная дзейнасць на карысць абароны зачатага жыцця і г. д.

Не апошнюю ролю ў практычнай экуменічнай дзейнасці адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі (інтэрнэт, выдавецтва, радыё і інш.). Можна сказаць, што амаль не існуе такой сферы жыцця, дзе не было б магчымым пэўнае супрацоўніцтва паміж вызнаўцамі Хрыста.

***– Вы з'яўляецеся старшынёй сінадальнай камісіі па справах экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу. Што належыць да задач і мэт гэтай камісіі? Якія тэмы і праблемы агаворваюцца падчас пасяджэнняў?***

– Наша камісія мае на мэце папулярызацыю адзінства хрысціян услед за словамі нашага Пана Езуса Хрыста "каб былі адно", а таксама пашаны, супакою і дыялогу паміж канфесіямі. Сваю задачу камісія рэалізуе на 4-ох узроўнях:

***1) навуковым – папулярызуючы вывучэнне дакументаў, якія датычаць экуменізму і міжрэлігійнага дыялогу;***

***2) духоўным – заахвочваючы і асабіста далучаючыся да малітвы аб еднасці хрысціян і пашане паміж прадстаўнікамі іншых рэлігій;***

***3) практычным – умела ўводзячы ў жыццё тое, што будзе выпрацавана на 2-ух вышэй названых узроўнях;***

***4) міжасобаснага супрацоўніцтва – на сямейным, сяброўскім і прыяцельскім падмурку, дэманструючы неабходнасць згоды паміж усімі, хто верыць у аднаго Бога.***

Сінод Гродзенскай дыяцэзіі прагне быць выразам удзелу ў экуменічнай справе Касцёла, а разам з тым заклікам да дзейнасці на карысць еднасці Хрыстовага Касцёла.

*Кінга Красіцкая*



*Папа Францішак з патрыярхамі і лідэрамі хрысціянскіх Цэркваў на Блізкім Усходзе*

# Візіт, які нясе благаслаўленне

● працяг са с. 1

***Душпастырскі візіт – адзін са спосабаў абвяшчэння Евангелля. Наведваючы дамы сваіх вернікаў, святары прагнуць паказаць, што кожны чалавек патрэбны і важны, а таксама ўсвядоміць парафіянам, што менавіта ім адрасавана канкрэтнае Божае слова. У гэтым нумары “Слова Жыцця” прагнем наблізіць традыцыю душпастырскіх візітаў у братніх Цэрквах.***



***Пастар Уладзімір Татарнікаў,***
*Лютэранская Царква*

*Памятаю яшчэ з дзяцінства, як наша сям’я пасля Каляд заўсёды запрашала на сустрэчу пастара. Мы чакалі гэтага асаблівага часу і адпаведным чынам рыхтаваліся да яго.*

*Па традыцыі, якая склалася ў нашай Царкве, пастары могуць наведваць вернікаў па запрашэнні ў любы час. Адзінага вучэння ці практыкі адносна душпастырскага візіту пасля Раства ў Лютэранскай Царкве не існуе. Усё залежыць ад краіны знаходжання Царквы ці ад традыцыі, якая склалася гістарычна. У Беларусі Лютэранская Царква знаходзіцца ў меншасці, і таму тут дастаткова моцна адчуваецца ўплыў іншых традыцыйных канфесій. Такім чынам, душпастырскі візіт у вернікаў Лютэранскай Царквы здзяйсняецца ў той жа час, як і ў вернікаў Праваслаўнай Царквы ці Каталіцкага Касцёла.*

*Лічу практыку душпастырскіх адведзін для хрысціянскай Царквы вельмі патрэбнай і важнай. Гэта добры час, калі святары могуць наведаць сваю паству, пагутарыць з вернікамі і іх сем’ямі, даведацца аб праблемах, з якімі яны сутыкаюцца, а самае галоўнае – разам памаліцца. У мітусні і клопатах паўсядзённасці не кожны мае магчымасць прыйсці ў святыню. Некаторым нават не стае часу, каб на працягу дня проста сказаць Богу “дзякуй” за Яго дапамогу. Душпастырскі візіт – як раз той момант, калі святар можа (і павінен!) нагадаць чалавеку, каб ён пакінуў усе свае побытавыя справы, знайшоў час, каб разам памаліцца і папрасіць у Бога падтрымкі і благаслаўлення на далейшыя дні жыцця.*

*Многія людзі запрашаюць пастара для малітвы і размовы дадому, бо часам саромеюцца падысці да яго са сваімі пытаннямі ці праблемамі ў святыні. Ведаю, што калі ў вернікаў Лютэранскай Царквы няма магчымасці паклікаць пастара, то яны звяртаюцца з такой просьбай да святароў Каталіцкага Касцёла. Гэта вельмі добры знак, таму што, лічу, малітва не павінна нас раздзяляць.*



***Айцец Андрэй Крот,***
*Грэка-каталіцкая Царква*

*Душпастырскія адведзіны ў нашай парафіі пачынаюцца пасля 6 студзеня – свята Богаабʼяўлення альбо Хросту Госпада нашага Езуса Хрыста, калі асвячаем ваду. Гэтай вадой затым святар і акрапляе дамы і кватэры вернікаў.*

*Я як душпастыр падчас адведзін вернікаў атрымліваю цудоўную магчымасць удзяліць болей часу сваёй пастве. Часта мы падоўгу размаўляем з вернікамі на розныя духоўныя і жыццёвыя тэмы. Так як наша парафія невялікая, імкнуся наведаць не больш за адну сям’ю ў дзень, каб прысвяціць неабходную колькасць часу ўсім парафіянам.*

*Некаторыя пры нагодзе просяць асвяціць дамы альбо кватэры сваім суседзям ці родным. Хтосьці запрашае святара кожны год, хтосьці – раз на два гады, хтосьці і радзей. Ёсць, праўда, і такія парафіяне, якія звяртаюцца вельмі рэдка ці не звяртаюцца ніколі.*

*Яшчэ ў нашай традыцыі душпастырскіх адведзін існуе такі звычай: святар малюе крыжыкі на чатырох сценах дома ці кватэры і падчас асвячэння памазвае іх алеем. Сёлета наша парафіянка мастачка Наталля Клімовіч дзеля гэтай справы падрыхтавала спецыяльныя налепкі з выявай крыжа св. Ефрасінні Полацкай.*



***Протаіерэй Георгій Рой,***
*Беларуская Праваслаўная Царква*

*У заходніх і цэнтральных епархіях Беларускай Праваслаўнай Царквы спрадвеку існуе традыцыя асвячэння дамоў прыхаджан пасля свята Гасподняга Хрышчэння. Святары накіроўваюцца да вернікаў са святой вадой, малітвай і пастырскім настаўленнем.*

*Час душпастырскіх адведзін з’яўляецца надзвычай важным і, у той жа час, складаным часам у практыцы кожнага святара. З ранку да вечара, як правіла, на працягу некалькіх тыдняў ён выконвае свой пастырскі абавязак у адносінах да вернікаў. Здараецца, што людзі жывуць недзе ў аддаленых месцах ці на хутарах, і дабрацца да іх не так проста. Аднак хачу заўважыць, што такія вернікі найбольш радасна сустракаюць святара.*

*У час адведзін перад вачыма душпастыра паўстае ўся палітра радасцей і горасцей чалавечага жыцця. Некаторыя сітуацыі патрабуюць самай пільнай і сур’ёзнай увагі ці неадкладнай пастырскай дапамогі. Святар не мае права быць абыякавым да праблем, з якімі сутыкнуўся вернік. Таму нягледзячы на надзвычайную загружанасць ды стомленасць у такі надзвычайны час душпастыр павінен з асаблівай увагай і клопатам імкнуцца наблізіцца да сваіх прыхаджан. Гэта дапамагае яму быць сапраўдным слугой Хрыста і Царквы.*



## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

**CatholicNews.by**

***Наступная Еўрапейская сустрэча Тэзэ пройдзе ў Польшчы***

***Будучай сталіцай экуменічнага форуму, які аб’ядноўвае хрысціянскую моладзь з розных краін Еўропы, стане Вроцлаў.***

*“У час, калі будаванне Еўропы сустракаецца з моцным супраціўленнем, калі ўзрастаюць непаразуменні паміж краінамі, сустрэча ў Польшчы дазволіць тысячам людзей маладога ўзросту адчуць, што ўзаемны давер пабудаваць магчыма”, – гаворыцца ў афіцыйным паведамленні супольнасці Тэзэ.*

*Вроцлаў стане 3-ім польскім горадам, які будзе прымаць еўрапейскую хрысціянскую моладзь на навагодняй сустрэчы Тэзэ. У 1999 годзе гэты форум праводзіўся ў Варшаве, а ў 2009 годзе – у Познані.*

**wiara.pl**

***Трывае збор “нежаданых” падарункаў***

***Людзі могуць выслаць іх у дабрачынны пункт на Яснай Гары (Польшча). Рэчы трапяць у дар патрабуючым.***

*“Неаднойчы здараецца, што ў якасці святочнага падарунка мы атрымліваем нешта непатрэбнае. У нас гэтыя рэчы не выклікаюць энтузіязму, але ёсць людзі, для якіх яны будуць нагодай для вялікай радасці”, – адзначыў апякун Яснагорскага дабрачыннага пункта а. Шыман Ботуль OSPPE. Святар заўважыў таксама, што дапамогай, арганізаванай гаспадарамі яснагорскага санктуарыя – айцамі паўлінамі – карыстаюцца, у першую чаргу, шматдзетныя сем’і, бяздомныя і беспрацоўныя.*

**Radio Vaticana**

***Самая вялікая працэсія Трох Каралёў***

***Шэсце ў акружэнні персанажаў з разнастайных казак і фільмаў прайшло вуліцамі Мадрыда (Іспанія).***

*Традыцыйную працэсію адкрыла вялікая калядная зорка. Галоўнай тэмай у гэтым годзе стала сіла мастацтва: музыкі, жывапісу, тэатра, танца. У шэсці прынялі ўдзел дзясяткі акцёраў і музыкантаў. Тры Каралі, згодна звычаю, шчодра кідалі цукеркі. Іх карэты былі аздоблены 30-цю тысячамі лістоў ад жыхароў горада.*

*Сваімі каранямі іспанская працэсія сягае сярэдзіны XIX стагоддзя. Першы ўспамін аб прадстаўленні прыбыцця магаў з Усходу паходзіць з 1855 года. Аднак самым старэйшым шэсцем Трох Каралёў у Іспаніі лічыцца тое, якое з 1866 года арганізуюць у горадзе Алька каля Алікантэ.*



### Чым дэпрэсія адрозніваецца ад духоўнага крызісу?

*Няправільным было б меркаваць, што дэпрэсіяй з'яўляецца штосьці несур'ёзнае, што праходзіць само па сабе. Цалкам несправядліва кагосьці вінаваціць за дэпрэсію або казаць, што яна вынікае з граху ці з'яўляецца звычайнай лянотай. Дэпрэсія – гэта хвароба, на якую пакутуюць мільёны людзей ва ўсім свеце, незалежна ад паходжання, узросту, рэлігіі і г. д.*

*Трэба таксама разумець, што не кожнае праяўленне суму, дрэннага настрою, стомленасці ці прыгнечанасці – сімптом дэпрэсіі. Людзі часам вельмі глыбока і інтэнсіўна перажываюць унутры сябе нейкія жыццёвыя праблемы, выпрабаванні, няшчасці, няўдачы, канфлікты. Часта з падобных сітуацый чалавек выходзіць пераможцам, яшчэ больш моцным, чым раней. Але здараецца і так, што празмерныя перажыванні або праблемы прыводзяць менавіта да дэпрэсіі. Калі хтосьці заўважае, што ў бліжняга працяглы час адсутнічае радасць да жыцця, жаданне што-небудзь рабіць, і ўсё гэта адначасова суправаджаецца фізічнымі сімптомамі розных хвароб (напрыклад, болем у вобласці грудной клеткі, расстройствам страўніка), то гэта выразная прыкмета дэпрэсіі. У яе лёгкіх станах можа дапамагчы простая змена ладу жыцця, нават звычайны шпацыр, адпаведная дыета, кантакт з сябрамі або нейкая праца. Аднак вельмі часта не абыходзіцца без дапамогі спецыяліста і фармакалагічнага лячэння.*

*У той жа час, мабыць, няма на свеце такога чалавека, які б не сустрэў у сваім жыцці розных унутраных праблем духоўнага характару. Колькі разоў звычайная няўважлівасць перашкаджае добра маліцца, часам можа праяўляцца сухасць, нежаданне, а нават немагчымасць трываць перад Богам, чытаць духоўную літаратуру ці ўдзельнічаць у жыцці Касцёла. Падобныя станы не сведчаць яшчэ пра духоўны крызіс, аднак калі іх ігнараваць, то могуць да яго прывесці.*

*Незалежна ад сваёй прыроды, духоўны крызіс – гэта вельмі складаны перыяд у жыцці чалавека. Сведчанні святых і меркаванні тэолагаў гавораць аб тым, што Бог пастаянна падтрымлівае сваё стварэнне ў падобным стане. І хоць хрысціянін ведае, што ў гэтай духоўнай цемры прысутнічае Бог, усё роўна вельмі пакутуе і прагне як найхутчэй выйсці на асветлены ласкай духоўны прасторы.*

*Як дэпрэсія, так і духоўны крызіс могуць стаць часткай жыццёвай дарогі кожнага чалавека, таму варта і гэтую сферу зямной рэчаіснасці аддаваць Богу ў малітве ды імкнуцца трываць у лучнасці са сваімі бліжнімі. Безумоўна, для верніка вялікім дарам з'яўляецца духоўнае кіраўніцтва, якое дапамагае не толькі выбіраць бяспечную духоўную дарогу, але і трываць на ёй у штодзённым даверы да Бога ды ўзрастаць да святасці.*

*А. Аркадзь Куляха OCD*
**Паводле catholicnews.by**

# Першы і найважнейшы сакрамант

**Хрост – гэта не нейкі абрад палівання вадою, нязвыклы рытуал, які трэба адбыць на ўсялякі выпадак, каб дзіця было здаровае і шчаслівае, а найважнейшы сакрамант хрысціянскага жыцця. Праз яго Бог вызваляе чалавека ад першароднага граху і іншых асабістых грахоў, яднае з сабою, дае Божае жыццё і ўключае ў святы Касцёл.**



**Што, калі, як і навошта?**

Чалавек мае патрэбу ў прыняцці сакраманту хросту, каб вызваліцца ад улады граху і стаць свабодным Божым дзіцём. Разам з тым хрост з'яўляецца пачаткам развіцця веры ў нованароджаным хрысціяніне. Такім чынам, кожны год у Пасхальную вігілію Касцёл запрашае вернікаў аднавіць абяцанні, складзеныя падчас святога хросту.

Варта адрозніваць дзве магчымыя сітуацыі – хрост дзіцяці і хрост дарослага чалавека. Пры ўдзяленні сакраманту хросту дзіцём лічыцца асоба да заканчэння 7-га году жыцця (кан. 97 §2). Калі дзіця мае больш за 7 гадоў, то, згодна з канонамі, яно павінна быць ахрышчана як дарослы чалавек (кан. 852 §1, кан. 97). Практыка хросту дарослых існуе з самага пачатку існавання Касцёла, хросту дзяцей – з II стагоддзя.

Зразумела, што перад удзяленнем сакраманту павінна адбывацца адпаведная падрыхтоўка (сустрэчы са святаром). Гэта датычыць як прымаючага хрост (калі ён дарослы), так і бацькоў, хросных. У выпадку хросту дарослых у Касцёле практыкуецца даволі працяглы перыяд катэхумената. На жаль, многіх палохае той факт, што на падрыхтоўку да прыняцця сакрамантаў (разам з хростам да Эўхарыстыі і канфірмацыі) трэба прысвяціць шмат часу. Але калі чалавек сапраўды спазнаў Бога, прыняў Яго ў сваё жыццё і хоча быць з Ім заўсёды, то гэты момант яго не спыніць, а час стане вельмі каштоўным.

Сакрамант хросту звычайна ўдзяляе святар альбо дыякан, біскуп. Але калі ёсць небяспека смерці кандыдата да сакраманту хросту, хрысціць можа любы чалавек, нават неахрышчаны. Для гэтага ён павінен узбудзіць у сваім сэрцы намер (інтэнцыю), каб гэтае дзіця было ахрышчана, і дзейсна выканаць сакраментальны абрад (кан. 861 §2).

Сакрамант хросту прадугледжвае наяўнасць хросных, задача якіх – прадстаўляць ці суправаджаць прымаючага хрост непасрэдна падчас сакраманту, а затым дапамагаць яму весці хрысціянскае жыццё, якое адпавядае прынятаму хросту.

Вельмі часта ў вернікаў узнікаюць пытанні наконт хросных бацькоў. Не заўсёды нават практыкуючыя хрысціяне могуць адказаць на іх аднязначна. Гэта звязана з уплывам народных традыцый, якія з часам набылі ўстойлівую форму і пераўтварыліся ў павер'і і забабоны. Паспрабуем знайсці адказы на пытанні, якія найчасцей хвалююць вернікаў.



**Ці можа сакрамант хросту быць удзелены без хросных?**

Так, у выпадках небяспекі смерці ахрысціць можна і без удзелу хросных. Паводле "Парадку хросту дзяцей", заданнем бацькоў і хросных з'яўляецца прадстаўленне ці суправаджэнне асобы да хросту – дыялог з распарадчыкам падчас абраду.

У сітуацыі, калі патэнцыйны хросны / хросная не можа прысутнічаць падчас удзялення сакраманту хросту ў сувязі з важнымі жыццёвымі абставінамі, святар з вельмі адказным распазнаннем справы можа згадзіцца на выкананне функцый хроснага / хроснай той асобай, пра якую вядома, што яна не будзе прысутнай падчас абраду.

**Ці можа быць толькі адзін хросны?**

Чалавек, які прымае сакрамант хросту, павінен мець хросных маці і бацьку. Аднак паводле нормы, якая дзейнічае ў Касцёле яшчэ з часоў Трыдэнцкага Сабору, можа мець толькі аднаго хроснага або хросную (кан. 873).



**Ці можа быць хросным…**

• ***вернік некаталіцкага веравызнання?***

Хросным можа быць толькі католік. У сітуацыі, калі хросных двое, Касцёл дапускае да гэтай функцыі таксама і аднаго праваслаўнага, але толькі разам з католікам. Хрысціяне іншай канфесіі (напрыклад, пратэстанты) могуць быць толькі сведкамі хросту, але не хроснымі.

• ***святар, манах або манахіня?***

Што тычыцца святароў і кансэкраваных асоб, то яны, як правіла, не павінны ўскладваць на сябе абавязкі хросных бацькоў, хіба што ўжо сталі імі яшчэ перад атрыманнем святарскіх пасвячэнняў ці ўступленнем у манаскі інстытут. Інакш неабходна атрымаць згоду біскупа (датычыць дыяцэзіяльных святароў) альбо вышэйшага настаяцеля (распаўсюджваецца на кансэкраваных асоб).

• ***сужэнцы і нарачоныя?***

Муж і жонка, адналькава, як і нарачоныя, якія маюць намер узяць шлюб, могуць хрысціць дзіця разам. Сумненні ў людзей узніклі з-за ўплыву традыцый Рускай Праваслаўнай Царквы, дзе існуе звычай, згодна з якім сужэнцы не могуць быць хроснымі для аднаго дзіцяці. Гэта тлумачыцца тым, што, становячыся хроснымі, мужчына і жанчына ўступаюць у духоўнае сваяцтва.

• ***разведзеныя?***

Асобы, якія разышліся і не жывуць у сакраментальным саюзе, а ўжо з іншай асабой (не ў шлюбе), не могуць быць хроснымі бацькамі, таму што яны трываюць у цяжкім граху і такім чынам публічна даюць антыхрысціянскі прыклад жыцця. Сужэнцы, якія жывуць самотна, сталым чынам ў сепарацыі (асобна), прыступаюць да сакрамантаў споведзі і св. Камуніі, могуць быць хроснымі бацькамі.

**Ці не забараняе Касцёл "адхрышчваць"?**

Многія вераць, што дзве сям'і не могуць запрасіць адна адну быць хроснымі бацькамі для сваіх дзяцей. Нібы так быць не павінна: чалавека "адхрышчваюць". Гэта народнае павер'е, якое нічога супольнага з хрысціянствам не мае.

**У якіх выпадках чалавек можа адмовіцца у тым, каб быць хросным?**

Быць хросным / хроснай – вельмі адказны абавязак перад Богам. Далёка не кожны гатовы адразу ўскласці на сябе гэтае заданне. Таму, згодна са сваім сумленнем, чалавек мае права адмовіцца ад прапановы стаць хросным / хроснай. Лепей напачатку не пагадзіцца і не быць хросным / хроснай "толькі на паперы", чым пагадзіцца, але ў далейшым не выконваць сваіх абавязкаў і пасля за ўсё гэта адказваць перад Богам. Тое, што чалавеку нібыта нельга сказаць "не" на просьбу стаць хросным / хроснай, з'яўляецца забабонам.

**Як хросныя павінны падрыхтавацца да сакраманту хросту?**

Каб стаць хросным / хроснай, перад сакрамантам хросту трэба прыняць удзел у катэхетычных сустрэчах у парафіі, адказна падрыхтаваўшыся да гэтага задання. Пры тым варта памятаць, што функцыі хроснага / хроснай абавязваюць да таго, каб быць прыкладам хрысціянскага жыцця для ахрышчанага. Іншым словам, трэба практыкаваць сваю веру, прыступаць да сакраманту споведзі, прымаць св. Камунію.

Неабходна ўсведамляць, што прыняцце сакраманту хросту – гэта толькі пачатак, фундамент, які патрабуе далейшага развіцця, брама для пераходу да Таямніцы хрысціянскай веры і да жыцця паводле прынятай веры. Клопат пра гэта – абавязак бацькоў, хросных і самага ахрышчанага.

*А. Аляксандр Махнач SP*

## Патрабаванні да таго, каб быць хросным / хроснай у Касцёле:

**1) быць выбраным(-ай) тым, хто прымае хрост, яго бацькамі або тымі, хто іх замяняе, а пры іх адсутнасці – пробашчам або распарадчыкам (акрамя таго, павінен(-на) быць здольным да гэтага і мець намер выконваць дадзены абавязак);**

**2) мець не менш за 16 гадоў (дыяцэзіяльны біскуп мае права ўстанавіць іншую мяжу ўзросту, а нават пробашч альбо распарадчык па важнай прычыне можа зрабіць выключэнне асобе, якая яшчэ не дасягнула адпаведнага ўзросту);**

**3) з'яўляцца католікам / каталічкай, што ўжо прыняў(-ла) сакраманты канфірмацыі і Эўхарыстыі, а таксама весці жыццё ў адпаведнасці з верай і тымі абавязкамі, якія трэба будзе выконваць;**

**4) не быць звязаным ніякім кананічным пакараннем;**

**5) не з'яўляцца бацькам / маці прымаючага хрост.**

НАВІНЫ





# ЕВАНГЕЛІЗАЦЫЯ ПРАЗ СВЯТЫ

Вернікі Гродзенскай дыяцэзіі прадаўжаюць дзяліцца радасцю свят Божага Нараджэння. З гэтай нагоды біскупскую курыю ў Гродне наведалі маленькія калядоўшчыкі з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне. Незвычайнае каледаванне пад вокнамі Сястрынскага дома апекі пры Цэнтральнай Смаргонскай бальніцы зладзілі члены і аніматары Савіо-клуба з мясцовай парафіі св. Міхала Арханёла.

У шматлікіх святынях адбыліся інсцэніраваныя прадстаўленні, прысвечаныя моманту прыйсця ў свет Божага Сына, а таксама калядныя акцыі для патрабуючых. Падобныя мерапрыемствы дапамагаюць людзям стаць больш чулымі да Бога, які прагне нарадзіцца ў кожным чалавечым сэрцы.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



У касцёле Божай Міласэрнасці ў Доцішках (дэканат Радунь) біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч узначаліў урачыстасці з нагоды 20-годдзя ўзвядзення святыні. Іерарх цэлебраваў Эўхарыстыю ў інтэнцыі парафіяльнай супольнасці, а таксама ўсіх тых, хто прычыніўся да паўстання парафіі і будаўніцтва касцёла.

З душпастырскім візітам біскуп Аляксандр наведаў Кангрэгацыю Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі) у Гродне. Найперш ардынарый памаліўся за манахінь у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, а затым наведаў манаскі дом і "Дом для мамы – Назарэт", якім апекуюцца сёстры.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



На пачатку года, падчас зімовых канікул у будынку Гродзенскай ВДС адбыліся рэкалекцыі па распазнанні пакліканні да юнакоў пад назвай "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць..." (Лк 2, 10). У іх прынялі ўдзел каля 60-ці міністрантаў з розных куткоў дыяцэзіі. Праграма сустрэчы ўключала духоўныя практыкі, а таксама індывідуальныя размовы з душпастырам пакліканняў кс. Андрэем Лішко і знаёмства з семінарыйным жыццём.

## ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫЯ ДУШПАСТЫРСТВЫ



Група з душпастырства чыгуначнікаў пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне ў складзе 15-ці чалавек прыняла ўдзел у працэсіі Трох Каралёў у Варшаве (Польшча). У рамках выезду члены душпастырства сустрэліся з працаўнікамі польскай дзяржаўнай чыгункі.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Каля сотні маладых людзей з Гродзенскай дыяцэзіі прынялі ўдзел у 41-ай Еўрапейскай сустрэчы моладзі, арганізаванай экуменічнай супольнасцю Тэзэ. • На IX навагодняй сустрэчы Асацыяцыі Святой Сям'і, арганізаванай сёстрамі назарэтанкамі, сабраліся сужэнцы разам з дзецьмі з Навагрудка, Ліды, Гродна, Мінска. • Рэкалекцыі для дзяўчат, прысвечаныя тэме малітвы, прайшлі ў кляштары сясцёр кармэлітак Дзіцятка Езус у Адамавічах (дэканат Сапоцкін). • 4 асобы ўрачыста прынялі святы шкаплер у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

АНОНСЫ

## XVI ФЕСТЫВАЛЬ КАЛЯДНЫХ ПЕСЕНЬ АДБУДЗЕЦЦА Ў ІЎІ

**Традыцыйнае мерапрыемства пад назвай "Gloria in excelsis Deo" пройдзе 20 студзеня ў гарадскім Доме культуры. Пачатак у 14.00.**

У конкурснай праграме выступяць дзеці і моладзь: салісты, дуэты, трыо, квартэты, ансамблі і хоры з розных парафій Іўеўскага дэканата.

*На святочны канцэрт арганізатары запрашаюць усіх жадаючых.*

*Перад адкрыццём фестывалю ў 11.00 у касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла адбудзецца св. Імша, якую ўзначаліць Апостальскі нунцый кс. абп Габар Пінтэр.*

## АПОСТАЛЬСТВА ДАПАМОГІ ЧЫСТЦОВЫМ ДУШАМ АДЗНАЧЫЦЬ 10-ГОДДЗЕ СВАЙГО ІСНАВАННЯ

**Урачыстасці з нагоды юбілею пройдуць 26 студзеня ў касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне.**

Цэнтральным пунктам сустрэчы, куды прыбудуць удзельнікі апостальства, стане св. Імша ў 10.00.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 029) 788-89-85 – Тэрэза (аніматар групы).*

## XVIII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 27 студзеня ў мясцовым Доме культуры. Пачатак у 15.00.**

Сёлета дэвізам прагляду будуць словы: "О, Любоў неспасціжная, якой жа вялікай ты была, што сюды з нябеснага трона зышла...". Да ўдзелу запрашаюцца салісты, гурты, хоры, суполкі – усе, хто прагне дзяліцца радасцю свят Божага Нараджэння.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у пробашча парафіі ў Сапоцкіне кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 – або праз электронную пошту: antonij1973@mail.ru.*

## ПАРАФІЯ СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗУЕ ПІЛІГРЫМКУ Ў ІТАЛІЮ

**Аўтобуснае паломніцтва запланавана з 30 красавіка па 9 мая.**

Праграмай пілігрымкі прадугледжана наведванне Венецыі, Падуі, Сан-Джавані-Ратонда, Монтэ-Сант-Анджэла, Асізі і многіх іншых гарадоў, звязаных з жыццём святых Антонія Падуанскага, Францішка Асізскага, Айца Піо.

У Рыме плануецца ўдзел у генеральнай аўдыенцыі з папам Францішкам. Пілігрымка завершыцца супольнай малітвай на Яснай Гары ў Чанстахове (Польшча).

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у арганізатара пілігрымкі пробашча парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску кс. Алега Дуля па тэлефоне: (8 029) 313-65-64.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок;*
**15 студзеня 1991 г.** – кс. Фелікс Сарока, *проб. Адэльск;*
**17 студзеня 2003 г.** – бп Эдуард Самсэль, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**19 студзеня 1968 г.** – кс. Мар'ян Вандалоўскі, *проб. Правыя Масты;*
**20 студзеня 1965 г.** – кс. Юзаф Навасадка, *проб. Тэалін;*
**20 студзеня 1976 г.** – кс. Стэфан Сечка, *проб. Ліпнішкі;*
**22 студзеня 1965 г.** – кс. Клеменс Лікшта, *проб. Быстрыца;*
**25 студзеня 1968 г.** – кс. Міхал Шымковіч, *проб. Ізабелін.*

## Каляндар падзей

***13 студзеня***
*Свята Хросту Пана. Заканчэнне перыяду Божага Нараджэння. Згодна з традыцыяй, калядкі можна спяваць да 2 лютага.*

***17 студзеня***
*Успамін св. Антонія, абата.*

***18–25 студзеня***
*Тыдзень паўсюднай малітвы аб еднасці хрысціян. Заахвочваем маліцца аб адзінстве ўсіх вызнаўцаў Хрыста.*

***21 студзеня***
*Успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.*

***24 студзеня***
*Успамін св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла, а таксама заступніка журналістаў і каталіцкай прэсы. Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі.*

***25 студзеня***
*Свята навяртання св. апостала Паўла.*

***26 студзеня***
*Успамін св. Цімафея і Ціта, біскупаў.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Студзень***

*Аб адзінстве і прымірэнні паміж хрысціянскімі супольнасцямі розных канфесій у дыяцэзіі, а таксама аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Дзіцячы куточак

# Святарскае каледаванне

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Кожны год пасля свят Божага Нараджэння мы чуем у касцёле, што святар распачынае каляду. Гэта значыць, трэба запісацца і запрасіць душпастыра на сустрэчу да сябе дамоў.*

***Што такое каляда і навошта яна патрэбна?***

*Каляда – гэта, перш за ўсё, падзяка Богу за атрыманыя ласкі ў мінулым годзе і малітва аб Яго апецы ў наступным, а таксама магчымасць прыватнай сустрэчы са святаром. Душпастыр наведвае парафіян, благаслаўляе вернікаў і іх сем'і, асвячае дамы, супольна моліцца разам з іх жыхарамі.*

***Адкуль узялася традыцыя святарскага каледавання?***

*У Касцёле да душпастырскага візіту абавязвае Кананічнае права, якое прадпісвае наведванне сем'яў "для пашырэння веры людзей і аказання ім неабходнай духоўнай дапамогі". Такім чынам, святарам недастаткова толькі бачыць сваю паству ў касцёле: яны павінны ведаць, як і чым жывуць іх авечкі штодзень. Для гэтага і існуюць душпастырскія адведзіны.*

***Як адбываецца святарскае наведванне?***

*Згодна з традыцыяй, мы пішам на ўваходных дзвярах сваіх дамоў асвечанай крэйдай літары "C+M+B" і бягучы год. Гэтыя літары з'яўляюцца першымі літарамі слоў лацінскага выразу "Chrisus mansionem benedicat" ("Няхай Хрыстос благаславіць дом").*

*Гаспадар дома сустракае святара ля ўваходных дзвярэй, затым запрашае ў пакой. Пажадана, каб на сустрэчы з душпастырам прысутнічалі ўсе члены сям'і. Гэта добры час для прыватных размоў са святаром, калі ў хатняй атмасферы можна пачуць адказы на любыя хвалюючыя пытанні.*

*Душпастырскае наведванне мае характар хатняга набажэнства. Яно можа распачацца з супольнай малітвы ці разважання над Божым словам. Часам наведванне распачынаецца са спеву калядкі. Вітаючыся словамі "спакой гэтаму дому", святар жадае, каб тут пастаянна прысутнічаў Хрыстос, які сваім з'яўленнем на свет прынёс людзям спакой. Пасля прывітання адбываецца благаслаўленне сям'і і дома з акрапленнем асвечанай вадой усіх прысутных.*

*Дарагі Маленькі Чытач! Вельмі важна памятаць аб гасціннасці, калі прымаем у доме госця. З гэтай нагоды хачу падзяліцца з Табой адной цікавай прыпавесцю, якая называецца "Гатэль у горадзе багоў".*

***Даўным-даўно жыў прамудры старац. Было ў яго трое сыноў. Добрыя сыны ва ўсім слухаліся бацьку.***

***Аднойчы стары паклікаў да сябе сыноў і сказаў:***

***– Хутка я пакіну вас, дзеці мае. Аддаю вам усё, што нажыў працай і розумам... Падзяліце маю скаціну на чатыры роўныя статкі. Няхай кожны возьме сабе па адным і працягвае маю справу. Жывіце дружна і вучыце дабру сваіх дзяцей!***

***Пакланіліся сыны бацьку, падзякавалі яму за дар. Але перш чым выйсці з пакоя, звярнуліся да яго з пытаннем:***

***– Ці ўсё мы дакладна пачулі, бацька? Ці правільна зразумелі твой наказ? Нас трое, а ты распарадзіўся падзяліць быдла на чатыры часткі. Каму ж пакідаеш чацвёртую?***

***Бацька адказаў:***

***– Чацвёртую частку сваёй жывёлы я пакідаю... вашаму госцю. Няхай кожны, хто мае патрэбу ў ежы і прытулку, хто па жаданні або па патрэбе з'явіцца ў вашым доме, знойдзе тут прыстанішча і пачастунак, пяшчоту і цяпло. А калі госць пачне сціпла адмаўляцца ад ежы і пітва, скажыце яму, што ён есць і п'е сваё, а не ваша, бо ў вашым набытку ёсць і яго доля... Памятаеце, дзеці мае, як казаў мудрэц: "Дабро зробіў – дабро атрымаў"? Разам з госцем у дом уваходзяць свята і радасць зносін.***

*Вельмі важна захоўваць традыцыі гасціннасці. Таму, Маленькі Чытач, калі будзеш сустракаць святара па калядзе, памятай, што да Цябе прыходзіць сам Бог у вобразе гэтага чалавека, і акажы яму годны прыём.*

**Заданне:** ***спытайся ў бацькоў, ці ўсё падрыхтавалі да каляднай сустрэчы са святаром, і памаліся разам з імі, каб гэты візіт быў поўным радасці і цеплыні.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA, сястра салезіянка са Смаргоні*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, паважаным Святарам Казіміру Жылісу, Валерыю Быкоўскаму, Юрыю Канапельку, Дзмітрыю Леўчыку, Анджэю Ганчару, Антонію Грэмзу, Юрыю Марціновічу, а таксама рэдакцыйнаму калектыву "Слова Жыцця"**

ад усяго сэрца перасылаем самыя пяшчотныя пажаданні з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2019 года. Жадаем моцнага здароўя душы і цела, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, мудрасці, цярплівасці, пакоры, лагоднасці, прабачэння, узаемапавагі, спакою, Хрыстовай любові ў Вашых добрых і адкрытых сэрцах, поспехаў, шчасця і радасці, унутранай гармоніі, стойкасці і моцы ў змаганні са спакусамі, шчодрых ласкаў ад Бога Айца і Святога Духа, апекі Панны Марыі і святых Заступнікаў.

Ад усяго сэрца дзякуем Вам за святыя сакраманты, Вашу любоў, духоўнае кіраўніцтва, парады, настаўленні, клопат аб нашым збаўленні, за нялёгкую працу на ніве Пана для ратавання кожнай заблукалай душы!

*З дарам малітвы, Дзмітрый Зотаў разам з таварышамі з ПК-11 у Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Станіславу Пытэлю і нашым Манаскім Сёстрам**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў.

У дзень нараджэння Божага,<br>
Няхай шчасцем сэрца грае,<br>
Хай здароўе<br>
Вас акружыць<br>
І надалей<br>
ўсцяж трывае.

Няхай гэтыя святы прынясуць Вам Божыя ласкі, спакой, радасць і дастатак, а ў новым годзе няхай здзейсняцца мары, укрытыя ў глыбіне сэрца.

*Удзячныя парафіяне з Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Люцыяну Дамброўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе доўгім і ясным, і на ім сустракаюцца добрыя людзі; Вашы шчырыя малітвы і павучальныя казанні няхай пранікаюць глыбока ў людскія душы і радуюць сэрцы; міласэрны Бог няхай адорвае Вас сваім благаслаўленнем, Святы Дух – усімі дарамі, а моц і сіла выплываюць з Крыжа Езуса. Няхай святы Заступнік абараняе Вас у кожную хвіліну жыцця.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Барунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог праз нашыя малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, ахіне ласкай і дабрынёй, а Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы разам з Вамі ідзём. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін на працягу ўсяго жыцця.

*Маладыя сем'і з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Люцыяну Радомскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем доўгіх гадоў жыцця, радасці і шчасця, моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў. Няхай кожны новы дзень прыносіць толькі добрыя навіны, трывогі і смутак не закранаюць сэрца, а праца будзе ў радасць. Няхай дарога паслугі будзе доўгай, а міласэрны Бог шчодра ўзнагароджвае за яе. Шчасці Божа!

*Удзячныя выхаванцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 149 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная